# Н Е В У К І   Ў С І Х   Ш К О Л ,   Я Д Н А Й Ц Е С Я !
## або Што мяняе ў афіцыйным правапісе Закон-2008

Апошнія два гады – з моманту, калі ўлады абвесьцілі пра будучую зьмену афіцыйнага правапіснага стандарту (жнівень-верасень 2006 г.), – сярод нацыянальнай інтэлігенцыі чуваць заклікі “аб’яднацца з народам”, адмовіўшыся ад клясычнага правапісу. Аднак перш як аб’яднацца, варта прааналізаваць ня толькі ДЗЕЛЯ ЧАГО, але й ВАКОЛ ЧАГО нас заклікаюць аб’яднацца. Якія ж пісьмёны мы можам прачытаць на сьцягу кансалідацыі?

БелТА паспрабавала пералічыць адрозьненьні паміж “старымі” й “новымі” правіламі (гл. інтэрвію А. Радзькова, 1.08.08), але адных не заўважыла, другія – вымысьліла (напр., у Законе няма словаў *прынтар*, *ёркшырскі*, *адажыа*, *сальфеджыа*, *трыа*, *Ёжэф*, а слова *пэйджар* у такім напісаньні замацаваў не Закон-2008, а акадэмічны “Руска-беларускім слоўнікам” у 1995 г.).

Каб спрасьціць публіцы працэс азнаямленьня з новымі правіламі, мы склалі параўнальную табліцу: напісаньні паводле цяперашніх правілаў (паводле Зводу-1959, СБМ, БРС, РБС, БелСЭ, БелЭн*) супастаўляюцца з тэкстам новага закону “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”. Некаторыя прыклады паўтараюцца ў розны месцах табліцы, бо ў кожным канкрэтным выпадку аналізуюцца розныя часткі слова, розныя артаграмы.

| **Ц Я П Е Р** | **Б У Д З Е   З   1.09.2010** |
|---|---|
| Аканьне ў ненаціскных фіналях **-эр**, **-ель** пазычаньняў: **э** > **а** | |
| **Пісалася бяз аканьня:** *альма-матэр*, *камп’ютэр*, *карцэр*, *лідэр*, *менеджэр* (РБС) і *менэджэр* (БРС), *прэсвітэр*, *шніцэль*, *шпатэль*, *унтэр*, *унтэр-афіцэр*, *унтэр-афіцэрскі* | **Уводзіцца аканьне:** *альма-мат**а**р*, *камп’ют**а**р*, *карц**а**р*, *ліd**а**р*, *менедж**а**р*, *прэсвіт**а**р*, *шніц**а**ль*, *шпат**а**ль* **Ня ўводзіцца аканьне:** *унтэр*, *унтэр-афіцэр*, *унтэр-афіцэрскі* (замест чаканых *унт**а**р*, *унт**а**р-афіцэр*, *унт**а**р-афіцэрскі*) |
| Замацаваньне аканьня ў русізмах-скаротах савецкага часу: **о** > **а** | |
| *абк**о**м*, *гарк**о**м*, *прафк**о**м* | *абк**а**м*, *гарк**а**м*, *прафк**а**м* |
| *ваенк**о**м*, *лінк**о**р*, *сельк**о**р* | *ваенк**а**м*, *лінк**а**р*, *сельк**а**р* |
| Увядзеньне аканьня ў іншых пазычаньнях-скаротах: **о** > **а** | |
| *інтэрп**о**л* (СБМ, БелЭн) | *інтэрп**а**л* |
| Аканьне на канцы пазычаньняў | |
| **Пісалася бяз аканьня:** *Ватэрло**о***, *Ры**о**-Грандэ*, *Ры**о**-дэ-Жанейра*, *Токі**о***, *Та**о***, *Віторы**о*** | **Уводзіцца аканьне – *-о* > *-а*:** *Ватэрло**а***, *Ры**а**-Грандэ*, *Ры**а**-дэ-Жанэйра*, *Токі**а*** **Ня ўводзіцца аканьне:** *Тао* (замест чаканага *Та**а***), *Віторыё* (замест чаканага *Віторы**а***) |
| Яканьня ў лічэбніках: **е** > **я** | |
| **Пісалася бязь яканьня:** *дз**е**вяты*, *дз**е**сяты*, *с**е**мнаццаць*, *вас**е**мнаццаць*, *пяцьдз**е**сят* | **Уводзіцца яканьне:** *дз**я**вяты*, *дз**я**сяты*, *с**я**мнаццаць*, *вас**я**мнаццаць*, *пяцьдз**я**сят* |
| *шэсцьдз**е**сят* | *шэсцьдз**е**сят* (§ 61.14) і *шэсцьдз**я**сят* (§ 18.4, § 61.1) |
| *семдз**е**сят* | ? – у Законе-2008 гэтага слова няма |
| *восемдз**е**сят* | *восемдз**я**сят* |
| Яканьня ў пазычаньнях: **е**, **ё** > **я** | |
| **Пісалася бязь яканьня:** *аўды**е**касéта* (БРС), *аўды**е**візуáльны* (БРС), але *аўды**ё**візуáльны* (СБМ, РБС) | **Уводзіцца яканьня:** *аўды**я**касéта* (у 2-м складзе перад націскам) |
| *пл**е**яда* | *пл**я**яда* |
| Пабочны націск у 1-й частцы складаных словаў | |
| **Націск не ўзьнікаў:** *цвердапáліўны* | **Націск узьнікае:** *цвѐрдапáліўны* |

| Спалучэньне “[**й**] + галосны” | |
|---|---|
| **Перадавалася рознымі спосабамі:**<br>гукі [**йа**] = **йа**, **іа**, **йя**; гукі [**йо**] = літары **йо**, **іо**;<br>гукі [**йу**] = літары **йу**, **іу**: | **Будзе перадавацца рознымі спосабамі:**<br>1) у некаторых выпадках – ётаванымі галоснымі **я**, **ё**, **ю**: |
| ***іо**г* (Звод-1959), але ***ё**г* (СБМ, РБС, БРС) | ***ё**г* |
| *папа**ія*** | *Папа**я*** |
| *А**йу**нскі* (БелЭн) | *А**ю**нскі* |
| ***Іо**фе* (БелЭн) | ***Ё**фе* |
| *Нью-**Йо**рк*, *нью-**йо**ркскі* | *Нью-**Ё**рк* (§16.3, §19.1), *нью-**ё**ркскі* (§23.21), але ***Іа**ркшыр* (§9.1), хоць усе пералічаныя словы паходзяць ад ***Yo**rk* |
| | 2) у некаторых выпадках – спалучэньнем “**і** + галосны”, напр. **іа**: |
| ***Іа**кагама* (Звод-1959, РБС), але ***Йа**кагама* (СБМ) | ***Іа**кагама* |
| Звод-1959: ***Іа**ркшыр*, ***іа**ркшырскі*<br>СБМ: ***Йо**ркшыр*, ***йо**ркшыр*, ***йо**ркшырскі*;<br>РБС: ***Йо**ркшыр*, ***йо**ркшырскі*, але ***іа**ркшыр*, ***іа**ркшырская свіння* | ***Іа**ркшыр* |
| ***Іа**шкар-Ала* (Звод-1959), але ***Йа**шкар-Ала* (СБМ, РБС) | ***Іа**шкар-Ала* |
| | 3) у некаторых выпадках – спалучэньнем “**і** + ётаваны галосны”: **іа** > **ія**; **іо** > **іё**: |
| ***Іа**рданія* (СБМ, РБС), *Транс**іа**рданія* (СБМ, БелЭн) | ***Ія**рданія* (§29) |
| *Віторы**о*** (паводле Зводу-1959) | *Віторы**ё*** (§25.2) |
| Напісаньне **е–э** ў пазычаньнях | |
| **Пісалася праз *е* або праз *э*:** | **Уводзіцца напісаньне праз *э*:** |
| *інтэрн**е**т* (БелЭн), але *інтэрн**э**т* (БРС) | *інтэрн**э**т* |
| *квінтэс**е**нцыя* | *квінтэс**э**нцыя* |
| СБМ: *пан**е**ль*; РБС: *пан**э**ль*; БРС: *пан**е**ль* і *пан**э**ль* | *пан**э**ль* |
| *рэзюм**е*** (СБМ), але *рэзюм**э*** (РБС, БРС) | *рэзюм**э*** |
| *рэнам**е*** (СБМ), але *рэнам**э*** (РБС, БРС) | *рэнам**э*** |
| *с**е**рвіс* (СБМ, БРС), але *с**э**рвіс* (РБС) | *с**э**рвіс* |
| *тун**е**ль* (СБМ, БРС), але *тун**э**ль* (РБС) | *тун**э**ль* |
| *экз**е**мпляр* (СБМ), але *экз**э**мпляр* (РБС, БРС) | *экз**э**мпляр* |
| *Булонь-сюр-М**э**р* (Звод-1959), але *Булонь-сюр-М**е**р* (БелЭн) | *Булонь-сэр-М**э**р* (§27.2) і *Булонь-сюр-М**э**р* (§35.2) – дзьве розныя формы аднаго й таго ж прыназоўніка *s**u**r* |
| *Душанб**е*** (СБМ), але *Душанб**э*** (РБС) | *Душанб**э*** |
| *Морз**е*** (СБМ, РБС), але *Морз**э*** (БРС) | *Морз**э*** |
| *Рыо-дэ-Жан**е**йра* | *Рыа-дэ-Жан**э**йра* |
| *Эйв**е*** (Звод-1959, БелЭн) | *Эйв**э*** |
| грузінскія прозвішчы на *-дз**е***: *Арджанікідз**е***, *Леанідз**е*** (Звод-1959) | *-дз**э***: *Брыгвадз**э***, *Табідз**э*** |
| | **Уводзіцца напісаньне праз *е*:** |
| *мен**е**джэр* (РБС), але *мен**э**джэр* (БРС) | *мен**е**джар* |
| *мен**е**джмент* (РБС), але *мен**э**джмент* (БРС) | *мен**е**джмент* |
| *Каба-В**е**рдэ* (БелЭн), але *Каба-В**э**рдэ* (РБС) | *Каба-В**е**рдэ* |
| *Лопэ дэ В**э**га* (Звод-1959, БелСЭ, БелЭн) | *Лопэ дэ В**е**га* |
| Напісаньне **д** (**дз**), **т** (**ц**) у пазычаньнях: | |
| **Пісалася цьвёрда або мякка:** | **Уводзіцца цьвёрдае напісаньне:** |
| *Д**’**еп* (Звод-1959, СБМ), але *Дз**ь**еп* (БелЭн, мапа “Францыя”) | *Д**’**еп* |
| *Сан-Мар**ты**н* (Звод-1959), але *Сан-Мар**ці**н* (БелСЭ, БелЭн) | *Сан-Мар**ты**н* |
| *ар**ты**шок*, ***Тэ**міртау* (БелЭн) | **Уводзіцца мяккае напісаньне:** *ар**ці**шок*, ***Це**міртау* |
| Мяккасьць **нь** перад **-ск-** (у прыметніках ад кітайскіх назваў) | |
| **Мяккасьць адлюстрозвалася:**<br>*чаньчу**нь**скі*, *цяньша**нь**скі* | **Мяккасьць не адлюстроўваецца:**<br>*чаньчу**н**скі*, *цяньша**н**скі* |
| Прыстаўны і ўстаўны **в** у пазычаньнях: **о** > **во**, **у** > **ву** | |

| | |
|---|---|
| ***в**охра* і *охра*, *есаул* | ***в**охра*, *еса**в**ул* |
| Ненаціскны пачатковы **у-** > **ў-** пасьля галосных | |
| **У пазычаньнях *у* не “скарачаўся”:**<br>*для **у**ніята*, *ва **у**ніверсітэце*, *для **ў**збекаў*, *на **ў**ральскіх дарогах* | **Уводзіцца “скарачэньне” *у* ў пазычаньнях:**<br>*для **ў**ніята*, *ва **ў**ніверсітэце*, *для **ў**збекаў*, *на **ў**ральскіх дарогах* |
| Ненаціскны **у** ў дыфтонгах пазычаньняў | |
| **Было “нескарочанае” напісаньне – *у* не пераходзіў у *ў*:** | **Уводзіцца “скарочанае” напісаньне – *у* > *ў*:** |
| *ра**у**нд* | *ра**ў**нд* |
| *са**у**на* | *са**ў**на* |
| *фа**у**на*, але *Фа**ў**н*, *Фа**ў**на* (БелЭн) | *фа**ў**на* |
| **Было “скарочанае” напісаньне – *у* > *ў*:** | **Уводзіцца “нескарочанае” напісаньне – *у* не пераходзіў у *ў*:** |
| БелСЭ: *Даха**ў***<br>БелЭн: *Даха**ў***, *Гюстра**ў***, *Лінда**ў***, *Паса**ў*** (мапа “Германія”), але *Даха**ў*** і *Даха**у*** (аднаймен. арт.); *Цвіка**ў*** (мапа “Германія” і аднаймен. арт.) | *Даха**у*** (але *Пі Ма**ў** Нін* – замест чаканага паводле правіла *Пі Ма**у** Нін*) |
| РБС: расейск. *траур* = бел. *жалоба* | *тра**у**р* |
| Напісаньне **і – ы** пасьля некаторых прыставак | |
| **Пісалася насуперак вымаўленьню – гук [ы] перадаваўся як *і*:**<br>*дэз**і**нтэгратар*, *дэз**і**нфармацыя*, *дэз**і**нфіцыраваць*, *суб**і**нспектар*<br><br>Звод-1959: *звыш**і**мперыялізм*, *контр**і**гра*, *між**і**нстытуцкі*, *пан**і**сламізм*; яшчэ – у СБМ: *між**і**мперыялістычны*, *Транс**і**арданія* | **Уводзіцца напісаньне адпаведна вымаўленьню – гук [ы] перадаецца як *ы*:**<br>*дэз**ы**нтэгратар*, *дэз**ы**нфармацыя*, *дэз**ы**нфіцыраваць*, *суб**ы**нспектар*<br>**Ня ўводзіцца напісаньне адпаведна вымаўленьню – гук [ы] перадаецца як *і*:**<br>*звыш**і**мклівы*, *звыш**і**нфляцыя*, *контр**і**дэя*, *контр**і**гра*, *між**і**рыгацыйны*, *між**і**нстытуцкі*, *пан**і**сламізм*, *супер**і**нтэлект*, *транс**і**ндыйскі* |
| Замацаваньне трансьлітарацыі замест транскрыпцыі | |
| БелСЭ: *бр**о**ўнаўскі (рух)* < *Бр**а**ўн* (Br**o**wn);<br>БелЭн: *бр**о**ўнаўскі і бр**а**ўнаўскі (рух)* | *бр**о**ўнаўскі (рух)* < *Бр**а**ўн* (Br**o**wn) |
| Перадаваньне нямецкіх гукаў **ö** як **a**; **h** як **ch** (**г** > **х**) | |
| *Ш**о**нгаўзен* (< *Sch**ö**n**h**ausen*; БелСЭ, БелЭн, арт. “Бісмарк”) | *Ш**а**н**х**аўзен* |
| Ужываньне вялікай літары | |
| **Пісаліся з малой літары:** | **Уводзіцца напісаньне зь вялікай літары:** |
| ***г**алоўнакамандуючы*, ***г**енеральны пракурор*, ***п**рэзідэнт*, ***п**рэм’ер-міністр*, ***с**таршыня* | ***Г**алоўнакамандуючы*, ***Г**енеральны пракурор*, ***П**рэзідэнт Рэспублікі Беларусь*, але *візіт прэзідэнта*, ***П**рэм’ер-міністр Рэспублікі Беларусь*, ***С**таршыня Савета Рэспублікі* |
| ***м**ітрапаліт*, ***п**апа*, ***п**атрыярх*, ***п**атрыяршы **э**кзарх* | ***М**ітрапаліт*, ***П**апа **Р**ымскі*, ***П**атрыярх **М**аскоўскі*, ***П**атрыяршы **Э**кзарх* |
| ***м**есія*, ***с**вяты*; ***б**іблія*, ***к**аран*, ***т**алмуд* | ***М**есія*, ***С**вяты; **Б**іблія*, ***К**аран*, ***Т**алмуд* |
| *Вялікае **к**няства Літоўскае* | *Вялікае **К**няства Літоўскае* |
| **Пісаліся зь вялікай літары:** | **Уводзіцца напісаньне з малой літары:** |
| ***П**астанова Савета Міністраў* | ***п**астанова Савета Міністраў* (але ***У**каз Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*) |
| Замена суфікса **-ва-** на суфікс **-н-** | |
| **Ужывалася з суфіксам *-ав-*:**<br>*кампост**ав**ы*, *фарпост**ав**ы* (БРС, РБС, СБМ) | **Уводзіцца напісаньне з суфіксам -н-:**<br>*кампос**н**ы*, *фарпос**н**ы* |
| Лібэралізацыя правілаў пераносу | |
| **Давалялася пераносіць толькі:**<br>*птуш-ка*, *рас-крыць*, *двац-цаць*, *сол-лю* | **Дазваляецца пераносіць па-рознаму:**<br>*пту-шка*, *птуш-ка*; *ра-скрыць*, *рас-крыць*, *раск-рыць*; *двац-цаць*, *два-ццаць*; *сол-лю*, *со-ллю* |
| Іншыя зьмены | |
| *ваенна-палявы* | *ваеннапалявы* |
| *кас**та**рэзны* | *кас**ця**рэзны* |
| *ус**ё**магутны* (< *усё можа*) | *ус**е**магутны* (параўн. расейск. *вс**е**могущий*) |
| ***с**эканоміць* (Звод-1959), але ***з**эканоміць* (СБМ, РБС, БРС) | ***с**эканоміць* |

| | |
|---|---|
| *Араў-парк* (БелЭн, арт. “Анікейчык”, “Купала”) | *А**ў**раў-парк* |
| *Ме**кк**а* (Звод-1959, СБМ) і *Ме**к**а* (РБС) | *Ме**кк**а* |
| *Чэлюскін* (СБМ, РБС) | *Ч**а**люскін* |

**КАРОТКІЯ ВЫСНОВЫ**

**Закон-2008, скасаваўшы нязначную частку супярэчнасьцяў і разьбежнасьцяў Зводу-1959 і практыкі яго ўжываньня, спарадзіў шэраг новых.** На зьмену адным выключэньням, якія патрабавалі мэханічнага зазубрываньня, уводзяцца новыя.

Уважлівага чытача ў Законе-2008 чакае шмат неспадзяванак, адна зь іх – праявы “рэваншызму”: вяртаньне да шэрагу напісаньняў, характэрных для Зводу-1959, але адкінутых лексыкаграфіяй (СБМ, РБС, БРС) і практыкаю апошніх 50-ці гадоў.

Пазнаёміўшыся з табліцаю, ня цяжка заўважыць, што матэрыял зь першага слупка (“Цяпер”) таксама вельмі супярэчлівы: акадэмічныя слоўнікі спрачаюцца адзін з адным, са Зводам-1959 і ўсе разам з энцыкляпэдыямі. Гэтае бязладзьдзе лішні раз сьведчыць пра тое, што афіцыйны стандарт сапраўды патрэбуе сур’ёзнага ўпарадкаваньня. Але НЕ ЦЯПЕР і НЕ ТАКОГА.

**Зьміцер Саўка**

Падрабязны аналіз Закону-2008 чытайце ў адным з бліжэйшых нумароў часопісу “Arche”.

---

* Крыніцы: **Звод-1959** – Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Мн., 1995; **СБМ** – Слоўнік беларускай мовы / АН БССР; Ін-т мовазнаўства. Мн., 1987; **РБС** – Руска-беларускі слоўнік / НАНБ; Ін-т мовазнаўства. Выд. 9 (апошняе). Т. 1–3. Мн., 2005 (стэрэатып выд. 6, папраўленага, 1995); **БРС** – Беларуска-рускі слоўнік / НАНБ; Ін-т мовазнаўства. Выд. 3, папраўленае і дапоўненае (апошняе). Т. 1–3. Мн., 2003; **БелСЭ** – Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1–12. Мн., 1969–75; **БелЭн** – Беларуская энцыклапедыя. Т. 1–18. Мн., 1996–2004.